Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапіс, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.

Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 27 трауня 1932 г. № 15 (40)

## Няпрыстойная прапазіцыя.

Пан Куратар Віленскага Школьнага Вокругу прыслаў Бацькаўскаму Камітэту Віл. Бел. Гімназіі 19 мая „паперу", у якой дaслоўна чытаем:

„Pragnąc ułatwić egzystencję gimnazjum i zapewnić mu trwałe podstawy, zamierzam wystąpić do Pana Ministra Wyznań Religijnych i Oświecenia Publicznego z wnioskiem o przyjęcie gimnazjum na etat państwowy w formie utworzenia przy gimnazjum im. Słowackiego klas równo ległych z białoruskim językiem nauczania.

„O ile propozycja moja odpowiada zamierzeniom Komitetu, proszę o złożenie odpowiedniego podania lub deklaracji oraz o wyrażenie zgody na przekazanie Skarbowi Państwa majątku gimnazjum".

Падпісана:

„Kurator Okręgu Szkolnego *K. Szelągowski*".

Як відаць з адзнакі на штампе: „Sprawa: — przyjęcie na etat państwowy gimnazjów białoruskich", такую-ж „паперу" п. Куратар мусіць паслаў і да Бацькаўскага Камітэту Наваградзкае Гімназіі, бо-ж іншых беларускіх гімназіяў у Польшчы няма: *усе ўжо пазачыняны*...

Мы ня можам прост спакойна гаварыць аб гэтай „паперы" і зьмесьце яе: настолькі абураючай прадстаўляецца нам зробленая п. Куратарам прапазіцыя. Дык мала таго, што школьныя ўлады за апошнія гады зьліквідавалі *дзьве* беларускія гімназіі—ў Радашкавічах і Клецку,—мала *ліквідацыі адзінае на ўсю Польшчу дзяржаўнае вучыцельскае сэмінарыі ім. Фр. Багушэвіча*, якая мела ўзгадоўваць вучыцялёў дзеля беларускіх народных школ: беларускаму грамадзянству прапануецца, каб яно, як аб „ласку", *прасіла п. Куратара аб зьліквідаваньне і двух апошніх ужо беларускіх гімназіяў — у Вільні і Наваградку*! Бо-ж перш, чым адчыняцца „паралельныя клясы з беларускай выкладовай мовай" пры *польскіх* дзяржаўных гімназіях, бацьком прапануецца аддаць у дзяржаўны скарб усю маемасьць нашых гімназіяў, зьбіраную ў працягу 13 гадоў цаной здароўя, а мо' й жыцьця беларускага вучыцельства, працаваўшага гадамі ў голадзе і холадзе. А што станецца з гэнымі беларускімі паралельнымі клясамі пры польскіх гімназіях цераз год (—а мо' і хутчэй!), лёгка прадбачыць: дзеля таго, што ў гімназіі ім. Словацкага ў першых клясах ёсьць усяго па 12—18 вучняў ды па гэтулькі-ж ёсьць і ў нас, клясы беларускія—згодна з існуючымі правіламі — *мусяць быць зьліты з польскімі клясамі ўвадно*, бо нормай лічыцца 40 вучняў на клясу. Такія „фокусы" мелі ўжо месца з польска-украінскімі гімназіямі ў Галічыне. Тое-ж было-б і ў нас, калі-б беларускае грамадзянства і беларускае вучыцельства дало сваю згоду на падобны праект.

Да таго-ж праект гэты *абражае нашае нацыянальнае пачуцьцё*. Як-жа гэта: дык *беларусы пад Польшчай навет ніводнае свае гімназіі мець не павінны?* —Гэткую абразу маглі нам зрабіць толькі затым, што мы сяньня разьедзены ўнутры агіднай правакацыяй, што мы эканамічна слабыя і *змушаны* зварачацца да дзяржаўнага скарбу аб фінансавае падтрыманьне.

Але годзе гэтага! Мы глыбака пераканаы, што ніводзін бацька, ніводзін беларускі вучыцель ня згодзіцца прасіць уладу аб зьліквідаваньне нашых гімназіяў. *Хоча ўлада іх зьнішчыць*, гэта справа другая; але *няхай-жа зробіць гэта адкрыта, узяўшы на сябе і ўсю адказнасьць перад беларускім народам за гэты свой крок.*

Незалежна ад таго, як бацькаўскія камітэты ў Вільні і Наваградку зарэагуюць на прапазіцыю п. Куратара, — *няхай бацькі нашых школьнікаў з вёскі масова пададуць свой голас і скажуць, ці маюць права камітэты пайсьці на падобны крок.* Дзеці сялян і работнікаў пераважаюць у нашых гімназіях. Хай бацькі іх скажуць сваё важкае слова.

I — няхай падумаюць *аб усенароднай, масавай акцыі дзеля збору матэрыяльнае дапамогі* загрожаным беларускім гімназіям. Гэта будзе найлепшы адказ на няпрыстойную прапазіцыю.

## „Полеміка" кс. Станкевіча.

Як мы і прадугледзілі, на зусім канкрэтныя, выразныя закіды, зробленыя намі ў папярэднім нумары кс. Адаму Станкевічу, гэты беларускі нацыянальны шкоднік ня даў ніякага істотнага запярэчаньня ці высьненьня. Ня даў—бо-ж ня мог пярэчыць таму, што цяпер ужо зусім ясна і зразумела хіба й самаму бяскрытычнаму з беларускіх хадэкаў...

Але „адказ" кс. Станкевіч усё-ж паспрабаваў даць. I то „адказ" — патройны.

Пачаў з таго, што, як сталася ведамым усім беларусам у Вільні, сфінансаваў выпуск чарговае аднаднёўкі свайго найсардэчнейшага сягоньня саюзьніка Акіньчыца — пад назовам „Наш Голас", на якую ўжо навет беспасярэдні „начальнік" Акіньчыца не хацеў марнаваць грошы: гэтак усім абрыдла ўпорлівае і дурное паўтараньне ілжы аб Луцкевічу ды Астроўскім, якую бяз ніякіх вынікаў паўтаралі зьмяняўшыя адзін аднаго Аляксюкі, Валэйшы, Павлюкевічы ды іншыя Акіньчыцы ў працягу многіх гадоў. Аднадзёўку, выданую Акіньчыцам за грошы кс. Станкевіча, ясна ж, пасьпяшыла разрэкламаваць ксяндзоўская „Беларуская Крыніца", падаючы ўвесь гэны дэфэнзыўны бруд і ілжу за голас беларускага грамадзянства.

Гэтым кс. Станкевіч выдаў сябе з галавой: вось, каго ён прызнае пакліканым да даваньня маральнае і палітычнае ацэнкі тварцом беларускага Адраджэньня! Аляксюк, Валэйша, Павлюкевіч, Акіньчыц — гэта прызнаныя кс. Станкевічам „маральныя аўтарытэты", з якімі і сябе ён паставіў у адзін рад...

Другі „адказ" кс. Станкевіча зьмешчаны ў канцавой стацьці „Белар. Крыніцы" з 22 траўня г. г. Паўтараючы свой стары ілжывы данос на грам. Астроўскага, што той нібы-то займаўся камуністычнай агітацыяй сярод сваіх вучняў, абліваючы ізноў гразёй грам. Луцкевіча (—словамі Акіньчыца!), кс. Станкевіч пускае ў ход лоўкі прыём: папросту, усе нашыя закіды, скіраваныя асабіста да кс. Станкевіча з прычыны яго правакацыйнае, шкодніцкае „работы", гэты „ловкач" стараецца перакінуць з сваей асобы на беларускую хадэцыю (у якой пэўне-ж ёсьць і шчырыя беларусы, зусім непавінныя ў праступках свайго лідэра!) дый на сваю-ж уласную часопісь. Кс. Станкевіч піша даслоўна гэтак: нібы-то „Бел. Звон" — пад шумным загалоўкам „На ўсенародны суд" нападае на БХД і „Бел. Крыніцу"... Аб сабе-ж — ані слова!

Але гэты „трюк" лішне ўжо наіўны і можа абаламуціць толькі тых, хто ня меў магчымасьці прачытаць нашыя закіды па адрасу кс. Станкевіча. I мы тут яшчэ раз рашуча заяўляем, што ўсе нашыя закіды ў стацьці „На ўсенародны суд" датычаць цалком і выключна асобы і дзеяльнасьці іменна кс. Станкевіча. Дык ці-ж ня сорамна — асабліва для ксяндза — гэтак бязбожна ашуківаць сваіх наіўных, лішне даверчывых да сутанны „авечак"? — Пфуй!..

Трэці „адказ", дадзены ў перадавіцы таго-ж нумару „Бел. Крыніцы" з 22 мая — пад загалоўкам „Што нас дзеліць?" На першы пагляд нясьведамаму чытачу можа паказацца, што—замест „фаховых" лаянак і зьвягі—кс. Станкевіч робіць нарэшце спробу стануць на грунт паважнае ідэйнае полемікі. Але гэта толькі так здаецца: бо і тут — старая, „прывычная" ілжа і ашуканства, а перад усім — стары маральны бруд.

Кс. Станкевіч, прычапіўшы нашай групе назоў „угадоўцаў" і раўнуючы нас з ведамымі „дэфэнзыўнымі полёнофіламі", вельмі спрытна расправляецца з намі, як з „угадоўцамі". Але „угоды" ён ня ганьбіць: ён толькі ўскладае на нас віну за тое, што польскі ўрад не здаволівае беларускіх патрэб і слушных дамаганьняў... Сама-ж па сабе „угода", запачаткаваная Валейшай і прадаўжаная іншымі прыяцелямі кс. Станкевіча (прыкл. Акіньчыцам), па яго думцы ня ёсьць нешта благое...

Вось-жа гэты пагляд на „ўгоду", які выказаў публічна кс. Станкевіч, запраўды рашуча аддзяляе ад яго і нас, і ўсё чэсна думаючае беларускае грамадзянства. Пагляд гэты—глыбака немаральны, і да такое „угоды" ня толькі ніхто з нас нязадольны, але й самы назоў гэты мусім ад сябе з агідай адкінуць — у твар кс. Станкевічу.

Слова „ўгода" паўстала за часоў панаваньня над Польшчай маскоўскае ўлады. Тады польскія паны-магнаты, каб прымазацца да „манаршае ласкі" і здабыць для сябе розныя асабістыя карысьці й ганоры (у пастаці прыдворных тытулаў), — дэманстрацыйна выракаліся імкненьня да адбудовы ўтрачанае незалежнасьці, выракаліся ўсялякае лучнасьці з польскім незалежніцкім рухам. Па такім шляху пайшлі ў беларусаў Аляксюк, Валэйша, Паўлюкевіч ды Акіньчыц. Мы-ж—наадварот—нічога з нашае нацыянальна-незалежніцкае ідэолёгіі не выракаліся — ні на словах, ні на пісьме, ні на дзеле. Гэта ведаюць чытачы нашае прэсы, каторыя ў ёй знаходзяць на кожным кроку сцьвярджэньне нашых нязломных палітычных паглядаў. Гэта

